# Голас Радзімы

№ 19 (2057)
12 мая 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



9 Мая... Свята з сівізною на скронях, свята са слязамі на вачах, як пяецца ў песні. Яна найбольш часта гучыць у гэты вялікі для нашай памяці дзень. І сапраўды выціскае слёзы ў пасівелых, як галубы, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Гэта слёзы смутку па сваіх баявых таварышах, якіх у васемнаццаць-дваццаць год паглынула страшэнная бездань вайны. Гэта слёзы радасці за ўнукаў, якім цаной свайго подзвігу і вялікіх ахвяр падарылі ветэраны блакіт майскага мірнага неба. Ці не таму так любяць унукі выйсці на вуліцы разам з дзядамі, апранутымі, як і адпавядае такому дню, пры ордэнах і медалях.
Яшчэ кволая рука ўнука ў моцнай руцэ дзеда... У руцэ, якая трымала зброю, каб абараніць жыццё. Вось наглядная повязь часоў і жывая повязь пакаленняў. 9 Мая мы часцей за ўсё думаем, каб трывалай была гэта повязь, каб не абарвалася.

Фота С. КРЫЦКАГА.

ТУРЫЗМ

## НА АЎТОБУСЕ — У РУМЫНІЮ

У першую паездку па аграпрамысловых адрасах Румыніі за вопытам калег адпраўляюцца работнікі саўгаса «Мінскі цяплічны камбінат» і калгаса «Новы быт». А дапамагае ім зрабіць гэтае падарожжа Беларускае ўпраўленне Дзяржкамінтурыста СССР. Яго работнікі і прапанавалі вяскоўцам эксперымент — увесь маршрут праехаць на аўтамабілях.

Сёлета многія турысты сталічнай вобласці змогуць здзейсніць падарожжы па маршрутах «Венгрыя—Румынія», «ЧССР—Польшча», «Балгарыя—Румынія». Будуць сярод гэтых паездак і такія, у якія можна адправіцца на ўласных машынах разам з сям'ёй ці сябрамі. «Інтурыст» жа прадастаўляе ім свайго гіда-перакладчыка. Ужо маецца больш дзвюх тысяч заявак на ўсе віды падарожжаў.

КІРМАШ

## НОВЫЯ КАНТРАКТЫ

Экзамен веснавога Лейпцыгскага кірмашу паспяхова вытрымаў наш трактар МТЗ-100.

Да беларускіх стэндаў у савецкім павільёне кірмашу, у прыватнасці, да гэтай машыны, падыходзілі не толькі тыя, хто цікавіцца тэхнікай. Прадстаўнікі завода гутарылі з сялянамі, спецыялістамі сельскай гаспадаркі ГДР, якія эксплуатуюць машыны. Ім спадабалася надзейнасць, высокая манеўранасць навінкі, простай у эксплуатацыі. Сваю прадукцыю на кірмаш прывезлі таксама ўладзімірскія і валгаградскія калегі. Аб поспеху айчыннага трактарабудавання гавораць новыя кантракты, якія былі падпісаны ў Лейпцыгу. Паводле папярэдніх ацэнак, пастаўкі мінскага завода на сусветны рынак павялічацца сёлета на 10 тысяч адзінак.

НОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

## ЛАЗЕР І СЕРВІС

Першы ў краіне лазерны прайгравальнік распрацоўваюць канструктары Мінскага механічнага завода імя С. Вавілава і Бердскага вытворчага аб'яднання «Вега».

Галоўнае ў прайгравальніку лазерны гуказдымальнік. Над ім і працуюць спецыялісты мінскага завода. Выпрабаваны доследныя ўзоры, якія паказалі добрыя вынікі.

Перавагі лазернага гуказдымальніка ў тым, што істотна павышаецца якасць гучання. Прымянены ў прайгравальніку мікрапрацэсар дазваляе па зададзенай праграме аўтаматычна мяняць паслядоўнасць выканання запісаў на пласцінцы, рабіць іншыя сервісныя аперацыі.

Словам, спажыўцы атрымаюць добрую, зручную ў быце і ў рабоце рэч.

КАШТОЎНЫ НАПІТАК



**Нарыхтоўка ўвесну бярозавіку — даўняя традыцыя на Беларусі. Зараз гэтай справай займаюцца работнікі лясных гаспадарак рэспублікі. У сёлетнім сезоне яны здалі на перапрацоўчыя прадпрыемствы прыкладна 25 тысяч тон каштоўнага напітку.**

**НА ЗДЫМКУ: работнікі Путчынскага лясніцтва Дзяржынскага раёна Вячаслаў КАРСАКОЎ і Аляксандр ПРАЗЕЦКІ за зборам бярозавага соку.**

ПРЫСВОЕНА ЗВАННЕ

## ГОНАР НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЦЭНЫ

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР выдатнай беларускай драматычнай актрысе Стафаніі Станюце прысвоена высокае званне народнай артысткі СССР.

Стафанія Станюта пачала свой творчы шлях яшчэ ў паслякастрычніцкія гады. Тады яна працавала ў Першым беларускім тэатрыстве драмы і камедыі. Потым быў Беларускі дзяржаўны тэатр, БДТ-2 (тэатр імя Я. Коласа), а з 1931 года БДТ-1 — тэатр імя Янкі Купалы, які стаў яе творчым домам на доўгія гады. І сёння на афішах гэтага тэатра імя Стафаніі Станюты. Нягледзячы на ўзрост, яна адна з вядучых актрыс, спецыяльна для яе пішуцца ролі, ставяцца спектаклі. Стафанія Станюта — выканаўца характарных, камедыйных і драматычных роляў. Яна валодае разнастайнымі сродкамі сцэнічнай выразнасці, стварыла шэраг народных характараў, дзе выявіла ў сваіх гераінях мудрасць, жыццядзейнасць, сувязь з роднай зямлёй, паказала вытокі душэўнай шчодрасці і чалавечнасці. «Раскіданае гняздо» і «Прымакі» Я. Купалы, «Салавей» З. Бядулі, п'есы А. Макаёнка і К. Губарэвіча, К. Крапівы і А. Маўзона, У. Шэкспіра і Лопэ дэ Вэга — вось толькі некаторыя моманты з яе багатай творчай біяграфіі. Сёння дзейнасць актрысы атрымала найвышэйшую для артыста адзнаку. У гэтым і ўдзячнасць за яе працу, і прызнанне яе вялікіх заслуг перад савецкім мастацтвам.

З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!



**Радасная падзея адбылася нядаўна ў маладой сям'і Івана і Тэрэзы СІНЮЦЬ з калгаса імя Карла Маркса Астравецкага раёна на Гродзеншчыне. У іх нарадзілася тры сыны. Цяпер малышам другі месяц. Да 14 год за блізнятамі Ванем, Сашам і Дзімам будзе назіраць раённы педыятр Ала ЛАЎРЭНЦЬЕВА, якую вы бачыце на здымку ў час чарговага наведвання малышоў і іх мамы.**

КАНФЕРЭНЦЫІ

## СУСТРЭЧА ГІСТОРЫКАЎ

У Гродне завяршыла работу сумесная савецка-польская канферэнцыя вучоных-гісторыкаў «Традыцыі дружбы і супрацоўніцтва народаў Савецкага Саюза і ПНР». Удзельнікі заслухалі шэраг дакладаў і паведамленняў аб сувязях двух народаў на розных гістарычных этапах. Разгледжаны некаторыя так званыя складаныя моманты, неабходнасць асвятлення якіх вызначана ў Дэкларацыі аб савецка-польскім супрацоўніцтве ў галіне ідэалогіі, навукі і культуры.

Вучоныя гаварылі пра «белыя плямы» ў гісторыі і перспектывы супрацоўніцтва і дружбы паміж нашымі народамі, пра сумесную барацьбу польскага і расійскага рабочага класа за перамогу рэвалюцыйных ідэалаў і бітву з фашызмам, этапы сумеснага будаўніцтва сацыялізму.

Узначальваў групу гасцей намеснік сакратара першага аддзялення грамадскіх навук Польскай акадэміі навук прафесар Б. Бялаказовіч. Ён адзначыў, што ў Польшчы існуюць спецыяльныя навуковыя калектывы і камісіі па вывучэнню спрэчных пытанняў гісторыі. Тут вельмі важна сумеснае даследаванне архіўных матэрыялаў у абедзвюх краінах.

ПРАМЫЯ СУВЯЗІ

## ГРОДНА — ЛАГМАН

Прамыя сувязі наладжаны паміж Гродзенскай вобласцю і афганскай правінцыяй Лагман. Школы, дзіцячыя сады, інтэрнат, гарадская паліклініка, клуб, ветэрынарная клініка, аўтарамонтная майстэрня — усё гэта ўкамплектавана матэрыяламі і абсталяваннем, якія паступілі ў Лагман з Прынёманскага краю.

Нядаўна дэлегацыя гродзенцаў пабывала ў правінцыі. Быў падпісаны пратакол аб развіцці прамых сувязей. У прыватнасці, у Гродне гатовы прыняць групу афганскіх грамадзян для абучэння сельскагаспадарчым прафесіям на курсах пры прафесійна-тэхнічных вучылішчах. Каля пяцідзесяці дзяцей з Лагман будуць штогод адпачываць у піянерскіх лагерах вобласці. Пачнецца абмен інфармацыйнымі матэрыяламі.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ПІСЬМЕННІКІ З ПОЛЬШЧЫ

Беларусь наведала дэлегацыя кіраўнікоў ваяводскіх аддзяленняў Саюза польскіх пісьменнікаў у складзе старшыні Быдгашчскага аддзялення, паэта, публіцыста Яна Гураца-Расіньскага; старшыні Зялёнагурскага аддзялення, паэта, празаіка, публіцыста, галоўнага рэдактара часопіса «Над Одрай» Януша Конюша; віцэ-старшыні Кракаўскага аддзялення, паэта, перакладчыка, загадчыка аддзела паэзіі газеты «Жыце літэрацке» Тадэвуша Слівяка.

Госці азнаёміліся з выдатнасцямі горада-героя Мінска, наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі — Мір, Навагрудак, Нясвіж і возера Свіцязь.

Адбылася гутарка ў Саюзе пісьменнікаў БССР. Госці цікавіліся праблемамі перабудовы ў нашай краіне, сучасным літаратурным працэсам.

5 МАЯ — ДЗЕНЬ ДРУКУ

## *ПРА ШТО МЫ ЧЫТАЕМ?*

**Май — месяц асабліва багаты на святы, вялікія і малыя, усенародныя і, калі можна так сказаць, «прафесійныя». Да якога ж аднесці Дзень друку, што адзначаецца ў нашай краіне 5 мая? З аднаго боку, гэта, безумоўна, прафесійнае свята работнікаў газет, часопісаў, кніжных выдавецтваў. З другога — яно блізкае кожнай савецкай сям'і, кожнаму чалавеку. Сёння, у час перабудовы ўсяго нашага жыцця, як ніколі раней, узрасла роля прэсы, наогул сродкаў масавай інфармацыі, іх уздзеянне на розум, пачуцці, сацыяльную і палітычную актыўнасць людзей. Гэта тычыцца не толькі цэнтральных газет і часопісаў, але і нашых рэспубліканскіх.**

Яшчэ нядаўна многія лічылі, што перабудова не дайшла да беларускай прэсы, ёй не стае баявітасці, прынцыповасці, актуальнасці. І трэба быць справядлівымі, нараканні тыя яна заслугоўвала. Але зараз стан спраў зусім іншы. З друкаваных старонак гавораць само сённяшняе жыццё пра свае радасці і беды, праблемы, вырашэнне якіх ужо нельга адкладваць ні на адзін дзень. Што ж найбольш хвалюе журналістаў і чытачоў?

Самая пільная ўвага таму, як ідзе працэс дэмакратызацыі ў рэспубліцы. Дзе ён ужо становіцца рэальным, а дзе тармозіцца. Пастаянна з'яўляюцца такія публікацыі ў газетах «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета», «Мінская праўда», у маладзёжных — «Чырвонай змене» і «Знамени юности», у часопісах. Для прыкладу варта прыгадаць артыкул журналісткі Людмілы Рыжанковай, надрукаваны ў «Звяздзе». У ім расказваецца пра даволі напружаную сітуацыю, што склалася ў калектыве работнікаў на Лукомскай ДРЭС у сувязі з выбарамі новага дырэктара электрастанцыі. Былі прапанаваны дзве кандыдатуры: галоўнага інжынера (яго рэкамендавалі вышэйстаячыя органы) і амаль радавога інжынера, якога вылучыў сам рабочы калектыў. Спрэчкі вяліся гарачыя. Рабочыя рашуча адмаўлялі першаму кандыдату, бо ў тым, што станцыя перажывае зараз свае далёка не лепшыя часы, ёсць немалая віна і ее галоўнага інжынера. Другому кандыдату, вядома, не хапае вопыту кіраўніка, але ён чалавек энергічны, прапанаваў эфектыўную праграму сацыяльнага развіцця. І гэта вабіла работнікаў станцыі. Гісторыя з выбарамі ў Новалукомлі паказала, што рабочы калектыў не проста адчуў сваю сілу, мажлівасць уплываць на ход спраў, але і ўмее карыстацца тымі вялікімі рэальнымі правамі, што яму нададзены.

Яшчэ адна балючая праблема выклікала літаральна цэлы шквал артыкулаў, чытацкіх пісьмаў, абмеркаванняў. Гэта пашырэнне сферы ўжывання роднай беларускай мовы, значнае паляпшэнне якасці яе выкладання. Тут асабліва вылучаюцца галасы нашай творчай інтэлігенцыі, настаўнікаў і моладзі.

І як водгук на іх заклікі, прапановы ў дыскусію ўступаюць рабочыя, служачыя, калгаснікі. Самая пільная ўвага надаецца моўнай праблеме журналістамі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». І зноў людзі адчулі магчымасць спаўна выкарыстаць свае правы, а таму і ўласную адказнасць за ўсё, што адбываецца з імі. Мабыць таму цяпер мы назіраем небывалую цікавасць да сваёй гісторыі, далёкай і не вельмі. Шмат «белых плям» тут ужо афарбавана промнем публічнасці. Але колькі яшчэ чакаюць сваёй чаргі! Сярод публікацый, што выклікалі асаблівы рэзананс, можна ўспомніць сустрэчу за «круглым сталом» у газеце «Звязда» беларускіх вучоных-гісторыкаў, філосафаў і нашых старэйшых пісьменнікаў Сяргея Грахоўскага і Яна Скрыгана. Абодва пацярпелі ў час неабгрунтаваных рэпрэсій гадоў культу асобы. На старонках газеты яны не толькі расказвалі аб перажытым, але і аналізавалі, што ж тады, у 30-я—50-гады, адбылася, як такое магло быць? Шмат пытанняў задае нам час. Далёка не на ўсе мы здолелі ўжо адказаць. Але адказваць трэба. Экалогія і горадабудаўніцтва, гісторыя і эканоміка — усе сферы жыцця вынесены сёння на грамадскі суд. І кожны можа выказаць сваё меркаванне на старонках прэсы.

**АТРЫМАНЫ ЎПЕРШЫНЮ Ў СВЕЦЕ Ў АКАДЭМІІ НАВУК БССР**

# ЦВЯРДЗЕЙШЫ ЗА АЛМАЗ

**«Гэта немагчыма!» — заявілі спецыялісты аднаго з буйнейшых у СССР навукова-даследчых інстытутаў, калі ўбачылі ў рабоце інструмент, створаны ў Акадэміі навук Беларусі. Але факт ёсць факт: навінцы паддаліся такія цвёрдыя матэрыялы, аб якія хутка тупіцца нават алмазны інструмент.**

Нічога звышнатуральнага ў даным выпадку няма. Менавіта ў Інстытуце фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук БССР у лабараторыі, якую ўзначальвае доктар тэхнічных навук, прафесар Анатоль Мазурэнка, у свой час упершыню ў свеце з парашкападобнага нітрыда бору, які на вобмацак нагадвае графіт, без дапамогі каталізатара былі атрыманы буйныя полікрышталі. Па цвёрдасці яны набліжаліся да алмазу і былі прыгодныя для аснашчэння такарных разцоў. У інстытуце створана таксама абсталяванне, якое дазваляе пры вялікім ціску і высокай тэмпературы ператварыць парашок у маналіт. Прыярытэт беларускіх вучоных у гэтай галіне абаронены больш чым сотняй аўтарскіх пасведчанняў СССР на вынаходствы, патэнтамі ЗША, Японіі, ФРГ... Некаторыя распрацоўкі ўжо асвоены ў вытворчасці, што эканоміць многія мільёны рублёў.

— Для выпрабаванняў у Маскву мы паслалі свой толькі што створаны матэрыял «Светланіт», які па ўласцівасцях пераўвышае ўсе папярэднія распрацоўкі, — расказвае адзін з аўтараў навінкі Эдуард Ракіцкі. — Чаму назвалі менавіта так? Першая частка слова — «светла...» — характарызуе высокую хімічную чысціню матэрыялу. Другая — «ніт» — утворана ад яго назвы: нітрыд бору. Напісанне на беларускай мове ўказвае рэспубліку, дзе створана навінка.

Распрацоўшчык дастае са шкляного слоіка невялікую цёмна-шэрую квадратную пласцінку. Гэта і ёсць рэжучая частка металаапрацоўчага інструмента. Адна грань пласцінкі ўвагнутая. Аказваецца, так сфарміраваць матэрыял удалося ўпершыню ў свеце, а выгады ад гэтага вялікія: не патрабуецца заточка рэжучай пласціны перад пачаткам работы, увагнутасць забяспечвае эфект самазатачвання.

Даследчык правёў пласцінкай па шклу — на ім засталася выразная рыска. Ды што там шкло! Акт выпрабаванняў, прысланы з Масквы, сведчыць, што новы матэрыял здольны апрацоўваць дэталі з найбольш цвёрдых металаў і сплаваў з вельмі высокай дакладнасцю і чысцінёй. «Светланіт» — адзіны ў краіне, які мае такія унікальныя фізіка-механічныя ўласцівасці. І не выпадкова аб сваім імкненні развіваць супрацоўніцтва з беларускімі вучонымі заявілі прадстаўнікі многіх прамысловых прадпрыемстваў.

— Аднак навінка можа прымяняцца не толькі для аснашчэння металарэзнага інструмента, — тлумачыць навуковы кіраўнік работы прафесар Анатоль Мазурэнка.— З «Светланіту» можна, напрыклад, вырабляць валокі — зносастойкія дэталі, якія выкарыстоўваюцца пры каліброўцы дроту. Ён добра праводзіць цяпло, але з'яўляецца дыэлектрыкам. Паколькі мы можам атрымліваць пласцінкі зададзенага памеру, гэта адкрывае новыя перспектывы для вытворчасці электронных прыбораў. Упершыню ў свеце ўдалося выявіць у такіх матэрыялах п'езаэлектрычны эфект. Пры падвядзенні да ўзору пераменнага электрычнага поля яго памеры мяняюцца з частатой поля накшталт таго, як гэта адбываецца пры награванні і аха[illegible]джэнні целаў. Гэта, відаць, [illegible]зволіць стварыць прынцыпова новы інструмент для вібрарэзання, а таксама выкарыстоўваць «Светланіт» у электроніцы і радыётэхніцы. Нарэшце, навінка блішчыц[illegible] чорны брыльянт, які рэд[illegible] сустракаецца, і можа выкарыстоўвацца ў ювелірнай справе.

На доследнай вытворчасці Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў ужо вырабляюцца пробныя партыі «Светланіту». Разам з гэтым вучоныя стараюцца расшырыць і галіну прымянення створаных раней звышцвёрдых матэрыялаў. Напрыклад, белборам, які шырока прымяняецца для аснашчэння металарэзнага інструменту, аснасцілі каронкі для бурэння геолагаразведачных свідравін. Новы інструмент аказаўся лепшым за аналагі з алмазу.

**Уладзімір БІБІКАЎ.**

# ЛЕПШАЯ РАБОТА МІНУЛАГА ГОДА

**На ўсесаюзным аглядзе-конкурсе Саюза архітэктараў СССР праект па рэстаўрацыі і аднаўленню гістарычнай зоны сталіцы Беларусі прызнаны лепшай работай мінулага года.**

— Мы глядзім на стары горад вачыма сучасніка, — гаворыць кіраўнік аўтарскага калектыву лаўрэат Ленінскай прэміі Л. Левін, — і стараемся быць рэалістамі: узнавіць абсалютна дакладную гістарычную карціну проста немагчыма. Горад жа пастаянна развіваўся, убіраў у сябе стылі, якія дамінавалі ў XVI і XVII стагоддзях, розныя цячэнні наступных стагоддзяў. Таму мы імкнуліся гарманічна аб'яднаць старое і новае, стварыць цэласны, функцыянальна прыстасаваны пад сённяшнія патрэбы горада ансамбль.

Пасля рэстаўрацыі стары цэнтр будзе складацца з пяці важных вузлавых ансамбляў. Гэта Мінскі замак, фрагмент раскопак якога раскажа аб падзеях шматвяковай даўнасці. Галоўнай славутасцю зоны стане музей гісторыі горада. А вось плошча Свабоды, былая Саборная, з будынкамі ў стылі Рэнесанса, беларускага барока, класіцызму. Тут узвышаюцца кафедральны сабор, будынак былога Бернардзінскага манастыра, які будзе ўзведзены нанава па чарцяжах і дакументах, што захаваліся.

— У рэспубліцы распрацавана таксама праграма рэгенерацыі гістарычнай забудовы 35 беларускіх гарадоў,— гаворыць галоўны архітэктар аб'яднання «Белрэстаўрацыя» С. Багласаў. — У бліжэйшых планах — работы ў Навагрудку, Кобрыне, Заслаўі, Полацку.

## ФОТА З АРХІВА



**Гэты здымак зроблены ў адзін з такіх жа светлых веснавых дзён, якія радуюць і сёння нас з вамі, дарагія суайчыннікі. Толькі тады быў незабыўны 1945-ты, год вызвалення Савецкай краіны і ўсёй Еўропы ад фашысцкага нашэсця. Той май стаў пралогам нашых з вамі будучых сонечных і шчаслівых дзён, месяцаў, гадоў.**

**На прыступках скоранага рэйхстага стаяць артысты... Выдатныя беларускія спевакі — народная артыстка СССР Ларыса Александроўская і народны артыст БССР Ісідар Балоцін. Вайна не прайшла міма іх: наогул, не было, не магло быць сярод савецкіх людзей проста назіральнікаў. Кожны павінен быў вызначыцца ў гэтай жорсткай барацьбе, вырашыць, дзе ён і з кім. Л. Александроўская і І. Балоцін, як і многія-многія іх калегі, знайшлі сваё месца ў барацьбе з ворагам у франтавых канцэртных брыгадах. Яны былі разам з тымі, хто з баямі ішоў наперад, да сцен рэйхстага. Адсюль, з самага цэнтра злавеснага трэцяга рэйха, пасыпаліся мільёнам людзей слёзы, боль, смерць. І вось усё скончана. Зямля чакае міру, святла, цяпла, прыгажосці, і таму нездарма ваенны фотакарэспандэнт сфатаграфаваў менавіта артыстаў на прыступках разбітай варожай цытадэлі...**

*НОВАЕ ЭКАНАМІЧНАЕ МЫСЛЕННЕ*

# КАМУ ВЫГАДНЫ ГАСПАДАРЧЫ РАЗЛІК

Як бы віцябчанам аб гэтым ні было сёння прыкра ўспамінаць, але 1987-мы год яны пачалі дрэнна: у студзені прамысловасць горада не выканала план. Падумалі: выпадковасць. Аднеслі на яе кошт традыцыйныя для пачатку года перабоі з пастаўкамі сыравіны, матэрыялаў. Правал планаў у лютым расцанілі, праўда, з вялікай нацяжкай, ужо як эканамічны пралік гаспадарчых кадраў. Але калі затым у сакавіку і красавіку сітуацыя ў прамысловасці не палепшылася, стала зразумела: трэба як мага хутчэй адысці ад стандартных метадаў кіравання эканомікай, больш энергічна ўкараняць гаспадарчы разлік, пераводзіць прадпрыемствы на самафінансаванне і самаакупнасць, наладжваць прамыя кантакты з іх сумежнікамі.

Жорсткія абставіны прымусілі ўсебакова заняцца разблытваннем гаспадарчых праблем адстаючых прадпрыемстваў. Але ланцужкі мясцовых няўдач цягнуліся ў кабінеты міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, у цэхі аб'яднанняў, што размешчаны далёка за яе межамі. Кіраўнікі, спецыялісты неаднойчы наведвалі Мінск, выязджалі ў далёкія камандзіроўкі — у Ленінград, Саратаў, Варонеж, іншыя гарады краіны. І там разам з мясцовымі калегамі шукалі магчымасці дапамагчы прамысловасці Віцебска.

...Ужо ў маі ў параўнанні са студзенем былі дасягнуты істотныя зрухі ў эканоміцы.

Надзвычайная сітуацыя ўвогуле спрыяе мабілізацыі скрытых рэзерваў чалавека, калектыву. Магутны, хай і балючы, штуршок прымушае развіваць ініцыятыву, шукаць аптымальнае эканамічнае рашэнне, «прымяраць» на сябе вопыт іншых. У пераадоленні ўстарэлых уяўленняў, барацьбе з абставінамі і бюракратычнымі перашкодамі ў атмасферы жыццёвай неабходнасці паступова ў свядомасці людзей нараджаецца, а потым матэрыялізуецца на практыцы канкрэтным вынікам новае эканамічнае мысленне.

На першы погляд у калектыва спецыяльнага канструктарскага бюро зубаапрацоўчых і шліфавальных станкоў не было важкіх прычын хвалявацца. Атрымалі Дзяржпрэмію СССР у 1985 годзе, не раз былі прызнаны лепшымі ў працоўным спаборніц[illegible] Аднак неабходнасць пе[illegible]довы пастукала ў дзверы С[illegible] раней, чым іншым у горадзе. Калектыў атрымаў асабліва важнае заданне па праектаванню аўтаматычных ліній для нядаўна створанага Віцебскага [illegible] станкабудаўнічага аб'яднан[illegible]асу было вельмі мала, а ў СКБ адбылося скарачэнне штатаў. Прыйшлося на хаду тэрмінова перапразмяркоўваць спецыялістаў па канструктарскіх аддзелах, рэарганізоўваць іх работу, строга кантраляваць выкананне заданняў. Канструктары вывучылі вопыт Ульянаўскага і Ленінградскага СКБ, пераймалі ў калег пэўны карысны вопыт. Пошук падказаў і цікавую форму павышэння эфектыўнасці працы канструктараў — стварэнне часовых творчых калектываў.

Прыняцце Закона аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні), пераход на гасразлік сталі магутным сродкам развіцця ініцыятывы, прадпрымальнасці, пошуку нестандартных рашэнняў. Так, Віцебская чыгунка здзівіла ўсіх тэмпамі будаўніцтва жылля ўласнымі сіламі (летась пры плане 600 квадратных метраў яны здалі 5 000).

Кіраўнікоў, спецыялістаў прадпрыемстваў сёння не зусім задавальняе роля гарадскога выканкома, планавых камісій раённых выканкомаў у кіраўніцтве эканомікай: яны пакуль не могуць ахапіць увесь комплекс праблем у прамысловасці. Тады ў горадзе пайшлі на ўмацаванне эканамічных служб выканкомаў Савета. Так, напрыклад, у гарадской планавай камісіі будзе працаваць восем кваліфікаваных вопытных спецыялістаў. Іх задача знаходзіць эфектыўныя метады кіравання ў вытворчых калектывах, дапамагаць ім у эканамічным абгрунтаванні нарматываў, паляпшэнні планавання, вучыць кадры аналізу гаспадарчай дзейнасці. Планавыя камісіі, фінансавыя аддзелы стануць ужо распрацоўваць пытанні сур'ёзнага паляпшэння спраў у будаўніцтве. Надышоў час канцэнтраваць намаганні ўсіх удзельнікаў будаўнічага канвеера. Якім чынам? Ёсць ідэя на базе домабудаўнічага камбіната, інстытута «Віцебскграмадзянпраект», упраўлення капітальнага будаўніцтва стварыць праектнабудаўнічае аб'яднанне. Яно ўзяло б на сябе асноўны клопат па праектаванню, будаўніцтву, забеспячэнню аб'ектаў абсталяваннем. Новы падыход у спалучэнні з адказнасцю і прафесіянальнай кампетэнтнасцю дапаможа да 2000 года забяспечыць віцябчан жыллём.

...Гараджане сёння часта пытаюцца у сяброў, знаёмых: «Што змянілася асабіста для вас пасля пераходу прадпрыемства на гаспадарчы разлік?» І нярэдка чуюць у адказ: вырасла зарплата, стала хутчэй рухацца чарга на жыллё, кіраўніцтва больш уважліва ставіцца да людзей.

Так, на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» вам кожны скажа, што даў яму гаспадарчы разлік. Там за апошні час выпуск асабліва модных вырабаў узрос у 19 разоў. Добрая якасць прадукцыі, шырокае выкарыстанне навоўвядзенняў, максімальная загрузка магутнасцей дазволілі фабрыцы летась атрымаць 4,6 мільёна рублёў дадатковага прыбытку. Рэальна для кожнага работніка фабрыкі гэта азначала прыбаўку да зарплаты ў сярэднім на 522 рублі за год, будаўніцтва дадатковых 10—15 кватэр, паляпшэнне ўмоў працы, быту і адпачынку людзей. У работнікаў фарміруюцца новыя адносіны да вытворчасці. Што выгадна дзяржаве, прадпрыемству, тое выгадна кожнаму з іх. Чым больш прыбытку, тым больш магчымасцей для вырашэння сацыяльных праблем.

На абутковай фабрыцы «Чырвоны Кастрычнік» гаспадарчы разлік таксама прымусіў задумацца над якасцю прадукцыі, абнаўленнем асартыменту (зараз яно складае 100 працэнтаў у год). Нядаўна тут заключана пагадненне з заходнегерманскай фірмай «Саламандра» аб стварэнні сумеснага прадпрыемства.

Трэба сказаць, што стабільная работа прамысловасці горада, пошук новых форм гаспадарання, вызначылі пытанні якасці прадукцыі як першачарговыя. Віцябчане вырашылі ўзровень большасці вырабаў давесці да сусветных стандартаў.

**П. ТУГАРЫН.**





**«Не шукайце ў маёй біяграфіі гераічных старонак, — гаворыць на шматлікіх сустрэчах былы ваенны лётчык, а сёння работнік Мінскага фарфоравага завода М. Карніенка. — Я проста стараўся сумленна выконваць свой салдацкі абавязак».**

**У гады Вялікай Айчыннай вайны першы бой ён прыняў у небе пад Курскам. Уся баявая біяграфія Мікалая Лукіча звязана з 18 гвардзейскім знішчальным авіяцыйным палком. У яго саставе поплеч з рускімі змагаліся і французскія лётчыкі эскадрыллі «Нармандыя-Нёман». Разам з імі Мікалай Лукіч вылятаў на заданні, радаваўся перамогам і смуткаваў аб загінуўшых баявых таварышах. Пяты варожы самалёт М. Карніенка збіў ужо ў небе Кёнігсберга. Закончылася другая сусветная вайна. Пачаліся гады вучобы. Тры ордэны Чырвонага Сцяга, два ордэны Айчыннай вайны, два ордэны Чырвонай Зоркі, многія медалі — так адзначана ваенная доблесць Мікалая Карніенкі — аднаго з ветэранаў Вялікай Айчыннай, салдата Перамогі.**

**НА ЗДЫМКАХ: М. КАРНІЕНКА (1988 год); сустрэча баявых сяброў у Мінску (злева направа): Мікалай КАРНІЕНКА, былы камандзір 303 знішчальнай авіяцыйнай дывізіі Георгій ЗАХАРАЎ, былы лётчык эскадрыллі «Нармандыя-Нёман» Гастон дэ СЕН МАРСО (з архіва М. КАРНІЕНКІ).**

**Фота і тэкст Я. КАЗЮЛІ.**

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Праўленне і члены ФРК горада Таронта жадаюць нашай Радзіме і ўсяму савецкаму народу шчасця, міру і дружбы. Жадаем нашай Айчыне новых поспехаў у справе барацьбы за ўсеагульны мір, а супрацоўнікам таварыства «Радзіма» — поспехаў у высакароднай дзейнасці па ўмацаванню культурных сувязей з замежнымі суайчыннікамі.**

**Жадаем вам усім добрага здароўя, шчасця і міру.**

**Сакратар аддзела ФРК горада Таронта Кацярына ЗВАНАРОВА.**
Канада.

**Паважаныя работнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»! Віншуем вас усіх і вашы сем'і з Днём вясны і салідарнасці працоўных 1 Мая і з Днём Перамогі! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў і міру!**

**Члены Цэнтральнага праўлення таварыстваў савецкіх грамадзян у Галандыі.**

**Паважаныя работнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»! Віншуем вас з радаснымі і дарагімі для ўсіх прагрэсіўных людзей планеты веснавымі святамі—1 Мая і Днём Перамогі! Жадаем поспехаў ва ўсіх справах, здароўя і шчасця!**

**Члены таварыства «Дружба» г. Гаагі.**
Галандыя.

**Дарагія сябры!**

**Шлю шчырыя віншаванні з выпадку знамянальных святаў вашай краіны і ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва — Дня міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая і 9 Мая — свята Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў!**

**Прыміце самыя добрыя пажаданні ад маёй сям'і паважанай рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», а ў яе асобе ўсім савецкім грамадзянам.**

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**
Аўстралія.

**Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Віншую вас і ўвесь родны савецкі народ са святам міжнароднай салідарнасці працоўных планеты — 1 Мая і Днём Перамогі над карычневай чумой — фашызмам!**

**Жадаю вам моцнага здароўя і вялікіх сіл для таго, каб вы змаглі ажыццявіць тыя грандыёзныя задачы, якія стаяць сёння перад краінай, перад усімі савецкімі людзьмі.**

**Мікалай ВЯЕЎНІК.**
Англія.

### *КАНСТАНЦІН МІХАЛЕНКА—ЛЁТЧЫК, ЛІТАРАТАР, МАСТАК*

# *КАРОЛЬ НЯБЕСНАГА ЦІХАХОДА*

Вазьму на сябе смеласць параўнаць нашага земляка Канстанціна Міхаленку з так вядомым у Савецкім Саюзе Экзюперы, французскім лётчыкам, якога ў нас любяць за яго цудоўныя кнігі, і перш за ўсё за «Маленькага прынца» і «Планету людзей».

Канстанцін Міхаленка не толькі лётчык, ён яшчэ і пісьменнік, скульптар, мастак, кінааператар.

У дзяцінстве ён застаўся без бацькі і маці. Першымі выхавальнікамі былі айчым і дзед. І калі айчым Канстанцін Цімафеевіч ...віў яму любоў да тэхні... навучыў многае рабіць сваімі рукамі, то дзед далучыў яго да літаратуры, да разумення прыроды і ўсяго прыгожага, што даруе нам мастацтва. Вось гэтыя горача любі... хлопчыкам людзі адыгр... важную ролю ў фарміраванні яго характару, пакінулі глыбокі след ва ўсім яго жыцці . І хоць іх уплыў не быў рашаючым пры выбары Канстанцінам асноўнай прафесіі—лётчыка, затое ва ўсім астатнім ён удзячны айчыму і дзеду.

...Неба вабіла, клікала да сябе з дзяцінства. Вабіла і клікала сваёй невядомасцю, бязмежнай вышынёй і незразумелай пругкасцю, якая трымала на сабе птушак і папяровых змеяў.

Захапленне мадэлямі самалётаў прыйшло яшчэ ў школьныя гады. Аднойчы Косця і яго сябар Міша Талкачоў неслі ў школу мадэль самалёта «Максім Горкі», у той час машыны высокага класа. Непадалёку ад школы іх спынілі два ваенныя лётчыкі. Яны з цікавасцю агледзелі мадэль і пахвалілі хлопчыкаў. Як гэта натхніла іх!

Заняткі ў восьмым класе супалі з першымі ўрокамі ў школе планерыстаў. Гады ляцелі непрыкметна, і вось ужо за горадам Гомелем, побач з палямі саўгаса, на паспешна пабудаваным планеродроме, пачалася сапраўдная вучоба лётнаму майстэрству.

Пасля сканчэння сярэдняй школы Косця падае заяву ў ваеннае авіяцыйнае вучылішча, хоча быць лётчыкам-знішчальнікам. Яго пасылаюць у Харкаў. І зноў вучоба. Толькі працягвалася яна нядоўга...

Аднойчы ноччу курсантаў падняў з нараў голас дзяжурнага: «Пад'ём! Баявая трывога!» І ў мёртвай цішыні яны пачулі словы:

— Сёння на світанні фашысцкая Германія...

А праз некальки дзён поезд вёз іх на ўсход, у глыбокі тыл. І там доўга вучыцца ім не давялося. Дванаццаць выдатнікаў вучылішча былі накіраваны на фронт. Сярод іх Канстанцін Міхаленка. Так яны апынуліся пад Масквой. Вораг тады ўжо набліжаўся да сталіцы нашай Радзімы, і над ёй навісла смяротная небяспека.

Маладыя і гарачыя лётчык, Міхаленка гатовы быў аддаць за Маскву сваё жыццё.

Авіяцыйны полк, куды прыбыў Міхаленка, быў незвычайным. Яго парк—самалёты «У-2», нябесныя вучэбныя ціхаходы, якія былі звезены ў полк з ваенных вучылішчаў і аэраклубаў. Тады яшчэ не толькі маладыя, але і вопытныя лётчыкі не ведалі, што ў высокіх штабах спешна вывучалі магчымасці прымянення малой авіяцыі ў сучаснай вайне. Гэта дазволіла б на першым этапе хоць у нейкай ступені кампенсаваць беззваротныя страты нашай баявой авіяцыі ў пачатку вайны. І нездарма аб гэтым думалі ў высокіх інстанцыях!

У будучыні «У-2», ці, як іх яшчэ называлі «кукурузнікі», сталі ў начным небе настолькі дапякаць ворагу, што рэйхсміністр Герынг вымушаны быў выдаць загад, па якому за адзін збіты «кукурузнік» нямецкі лётчык узнагароджваўся «Рыцарскім крыжам».

І вось першае баявое хрышчэнне. Разведка данесла, што ў лесе ля вёскі Куўшынава знаходзіцца замаскіраваная стаянка варожых самалётаў. Іх трэба знайсці і знішчыць. Разам са сваімі таварышамі Міхаленка паднімаецца ў начное неба. Заданне было выканана бліскуча—разгромлены аэрадром праціўніка без страт для нашых лётчыкаў. Згарэлі дваццаць два фашысцкія самалёты. Значыць, на нябесных ціхаходах можна ваяваць!

Майстэрства Канстанціна Міхаленкі, яго смеласць і разлічаная рызыкоўнасць былі заўважаны камандаваннем, і ў хуткім часе ён узначаліў эскадрыллю начных бамбардзіроўшчыкаў, усё тых жа «кукурузнікаў».

Колькі разоў сустракаўся Міхаленка ў небе са смерцю, не злічыць. Ваяваў у самым пекле—пад Сталінградам, на Доне, Курскай дузе, у Беларусі, Польшчы і Германіі. Акрамя таго, неаднаразова лятаў у глыбокі тыл ворага на разведку, а таксама да партызан.

У яго, можна сказаць, было развіта прыроднае пачуццё выручкі, дапамогі, дружбы. У адным з баявых вылетаў на выхадзе з пікіравання дзевятку самалётаў, якую вёў Канстанцін Міхаленка, атакавалі нямецкія знішчальнікі. Адзін самалёт падбілі, і ён вымушаны быў прызямліцца непадалёку ад варожых пазіцый. Немцы ўжо беглі, каб узяць нашых лётчыкаў у палон. Міхаленка, ні хвіліны не раздумваючы, пасадзіў свой «кукурузнік» на зямлю і пад агнём фашыстаў выратаваў сваіх баявых сяброў. За гэтыя і іншыя подзвігі Канстанцін Фаміч быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза.

Вайна для яго закончылася ў Берліне, вярнуўся ён дадому Героем.

А што далей?

Міхаленка не пакінуў неба, не развітаўся са сваёй лётнай прафесіяй. Адпачыў крыху пасля фронта і падаўся ў Маскву. Папрасіўся на прыём да начальніка Упраўле... палярнай авіяцыі, Геро... Савецкага Саюза Ільі Мазурука. Да таго самага славутага Мазурука, які ў 30-х гадах разам з Вадап'янавым высаджваў на Паўночным полюсе чацвёрку Папаніна. ...трэча і гутарка з ім запом...лася Міхаленку на ўсё жыццё.

— Даю табе самалёт «ПО-2», пераганіш яго ў Ігарку, там атрымаеш яшчэ чатыры і падбярэш сабе лётчыкаў. Потым усе паляціце ў Хатангу і паступіце ў распараджэнне начальніка экспедыцыі Бутлера. Характару работы, якую вам даручыць Бутлер, пакуль не ведаю. Але галоўнае для вас — даказаць, што малая авіяцыя не толькі патрэбна была на вайне, а і тут, у палярных умовах.

Шлях у далёкую Ігарку— тысячы кіламетраў Міхаленка пераадолеў за адзін дзень. У Ігарцы ён стварыў маленькі атрад, у які ўвайшлі Валодзя Раманаў, Мікалай Калеснікаў, Анатоль Сласцін, Дзмітрый Тымнетагін. Неўзабаве яны апынуліся ў Хатанзе, дзе іх сустрэлі прадстаўнікі экспедыцыі Бутлера. Работа ў гэтай экспедыцыі, вядомай у гісторыі асваення Савецкага Заполяр'я, надоўга ўвайшла ў жыццё Канстанціна Фаміча і пакінула глыбокі след. У гэтых мясцінах, суровых і неабжытых, удалечыні ад баз, часта «ўсляпую» пры небяспечным надвор'і ад лётчыкаў патрабавалася не толькі высокае майстэрства, але і незвычайная вытрымка, загартоўка і рызыка. Аднойчы здарылася такое... Амаль два тыдні прасядзеў Міхаленка са сваім экіпажам на пустыннай касе пасля аварыйнай пасадкі. І толькі таму прасядзеў, што другі пілот, які ляцеў з ім, не адважыўся пасадзіць побач свой самалёт. Два тыдні выбіраліся Міхаленка і яго сябры з гэтай бязлюднай прасторы. І ў тыя пераплёты ён трапляў не раз. За перыяд службы ў палярнай авіяцыі ён пакрыў звыш двух мільёнаў кіламетраў — налятаў больш за дзесяць тысяч гадзін. Неаднаразова пабываў ён і на дрэйфуючай станцыі «ПП» — «Паўночны полюс».

А потым... Потым Канстанціну Фамічу давялося яшчэ многа папрацаваць і ў Антарктыдзе. У маскоўскай кватэры, дзе ён зараз жыве, я, нібы зачараваны, слухаў яго расказ пра гэтую загадкавую зямлю, пакрытую лёдавым панцырам. Яе адкрыла, яд вядома, слаўная экспедыцыя рускага даследчыка Ф. Белінсгаўзена на двух караблях: карвеце «Усход» і шлюпе «Мірны». Пасля гэтага па слядах рускіх рушылі шматлікія экспедыцыі з іншых краін. З 1955 года савецкія вучоныя вядуць комплексныя даследаванні Антарктыды і яе ўзбярэжжа. Свой уклад унёс і Канстанцін Міхаленка. Там ён кіраваў другой авіяцыйнай групай, якой было дадзена заданне ўдакладніць і расшырыць работу папярэдняй экспедыцыі па аэрафотаздымках. У складзе групы налічваліся шаснаццаць чалавек, тры самалёты АН-2 і ЯК-12. Сам Міхаленка рэгулярна вылятаў на разведку сярод айсбергаў, садзіўся на пустынным мацерыку, часам з рызыкай для жыцця.

Мы ўжо ведаем, што лёс шчодра адарыў гэтага незвычайнага чалавека рознабаковымі здольнасцямі. Напомнім, аднак, яшчэ раз: лётчык, пісьменнік, скульптар, мастак, кінааператар. Калі яго пытаюць, як ён можа спалучаць усё гэта, Канстанцін Фаміч адказвае:

— Мне пашанцавала ў тым сэнсе, што я, як лётчык, многа бачыў у вайну і пасля вайны, а пра ўбачанае і пачутае хочацца расказаць сябрам, усім людзям. Адсюль і захапленне літаратурай, мастацтвам, кіно. Асабліва кіно: — яно ж дапаўняе мастацтва і літаратуру, аб'ядноўвае ўсе прафесіі (лётчыка таксама).

Магу без перабольшання сказаць: чалавек гэты — глыба, акадэмія. Вось толькі тое, што ён напісаў: кнігі «Лёдавая разведка», «Гарачае сэрца», «Ад краю да краю», «Кукурузнікі», «Неба варта вернасці» і г. д. Акрамя таго, ён аўтар шматлікіх артыкулаў, навел, апавяданняў у часопісах і газетах. У кнігах, гэтак жа, як і на карцінах, у кінанавелах і тэлевізійных фільмах, скульптурных работах ён праслаўляе і зацвярджае такія чалавечыя якасці, як дабрата, сумленнасць, мужнасць, стойкасць, і абавязковая, і гэта галоўнае, — любоў да Радзімы, адданасць і вернасць ёй да канца.

**Віктар ПЛЕШАВЕНЯ.**

## НАША МЕСЦА Ў ЗНЕШНІМ СВЕЦЕ

# ДЫПЛАМАТЫЯ БЕЛАРУСІ

**Анатолій ГУРЫНОВІЧ, міністр замежных спраў Беларускай ССР**



Дыпламатыя Беларусі пачынаецца са стварэння Народнага камісарыята замежных спраў Беларускай ССР у лютым 1919 года. Гэта былі цяжкія часы. Савецкая ўлада ў Мінску была ўстаноўлена 7 лістапада 1917 года, аднак барацьба супраць замежнай ваеннай інтэрвенцыі і ўнутранай контррэвалюцыі затрымала часавы рубеж поўнай перамогі Савецкай улады на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. БССР была абвешчана ў студзені 1919 года, але баі з інтэрвентамі ішлі да сярэдзіны лета 1920 года. І толькі ў верасні 1939 года збылася мара беларускага народа аб уз'яднанні ўсходніх і заходніх земляў у адзінай сацыялістычнай дзяржаве.

Куды толькі не цягнулі беларусаў у гады грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі рознага роду палітыканы і марыянеткі акупантаў. Адны з іх выступалі за «адзіную і непадзельную Расію», другія — за альянс з замежнымі інтэрвентамі, трэція — за поўную самаізаляцыю. Прапаноўваліся і іншыя варыянты, як жыць далей народу Беларусі. Пры гэтым было агульнае сцвярджэнне — без Савецкай улады.

Рабочыя, сялянскія і салдацкія масы Беларусі пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў зрабілі і адстаялі свой выбар: улада — Савецкая, шлях развіцця — сацыялістычны. У гэтым сутнасць Маніфеста аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, прынятага на падставе рашэння I з'езда Камуністычнай партыі Беларусі, які адбыўся ў канцы 1918 года.

Маладая беларуская дыпламатыя дабівалася і атрымала прызнанне з боку шэрагу заходнееўрапейскіх краін, у тым ліку і тых, якія раней ваявалі супраць маладой Савецкай Рэспублікі. З першых год Савецкай улады Беларуская ССР як сумесна з РСФСР і УССР, так і ў двухбаковым парадку заключыла рад важных міжнародных пагадненняў, якія былі накіраваны на забеспячэнне мірных умоў развіцця Савецкай дзяржавы.

Адначасова ішоў працэс наладжвання супрацоўніцтва з іншымі савецкімі рэспублікамі, развівалася ўзаемадапамога і расло разуменне таго, што толькі саюз з імі можа памножыць сілы і магчымасці народа, толькі ў такім саюзе рэальнымі стануць ажыццяўленне карэнных сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, пабудова сацыялізму і ахова яго вялікіх заваёў.

30 снежня 1922 года быў утвораны на добраахвотнай аснове Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У яго састаў увайшла і Беларуская ССР.

Дзяржаўны гімн Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пачынаецца словамі:

**«Мы — беларусы, з братняю Руссю**
**Разам шукалі к шчасцю дарог,**
**У бітвах за волю, ў бітвах за долю**
**З ёй здабылі мы сцяг перамог!»**

Гэтыя словы гімна ўвабралі ў сябе агульнасць лёсаў народаў дарэвалюцыйнай Расіі.

Дагаворам аб утварэнні Саюза ССР было прадугледжана, што пытанні знешняй палітыкі, як і шэраг іншых, будуць прэрагатывай саюзнага ўрада. Але гэта зусім не азначала, што саюзныя рэспублікі ўхіляліся ад удзелу ў іх вырашэнні.

Уваходзячы ў склад агульнасаюзных партыйных і дзяржаўных органаў, прадстаўнікі саюзных рэспублік актыўна ўдзельнічалі ў разглядзе і вырашэнні як унутраных, так і міжнародных праблем Краіны Саветаў. Спецыфічныя пытанні, якія непасрэдна тычыліся абароны знешнепалітычных інтарэсаў Беларускай ССР, вырашаліся і праз створанае тады прадстаўніцтва ўрада БССР пры ўрадзе СССР, а таксама праз Упраўленне НКЗС СССР у Беларусі. Гэта ўпраўленне было створана на базе Генеральнага консульства РСФСР у Мінску і апарата НКЗС БССР, якое было ліквідавана ў лістападзе 1923 года пасля ўрэгулявання пытанняў, звязаных з пераафармленнем шэрагу міжнародных абавязацельстваў БССР як агульнасаюзных і прымяненнем адпаведных міжнародных абавязацельстваў іншых саюзных рэспублік на тэрыторыі Беларусі.

У ходзе Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа супраць гітлераўскіх захопнікаў пачаўся якасна новы этап у развіцці знешнепалітычных сувязей брацкіх савецкіх рэспублік. У мэтах пашырэння міжнародных сувязей і ўмацавання супрацоўніцтва Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік з іншымі дзяржавамі, а таксама ўлічваючы ўзрослую патрэбу саюзных рэспублік у наладжванні непасрэдных адносін з замежнымі дзяржавамі, Вярхоўны Савет СССР у лютым 1944 года прыняў закон «Аб прадастаўленні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у галіне замежных сувязей і аб пераўтварэнні ў сувязі з гэтым Народнага камісарыята замежных спраў з агульнасаюзнага ў саюзна-рэспубліканскі Народны камісарыят». Неўзабаве ў вызваленым Гомелі (значная частка тэрыторыі рэспублікі яшчэ была акупіравана фашысцкімі захопнікамі) адбылася сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, у ходзе якой 24 сакавіка 1944 года быў прыняты закон «Аб утварэнні саюзна-рэспубліканскага Народнага камісарыята замежных спраў БССР». Затым НКЗС, як і іншыя наркаматы, быў пераўтвораны ў міністэрства.

У той перыяд знешнепалітычнае ведамства рэспублікі ажыццяўляла адпаведную палітычную, інфармацыйную, консульскую, кадравую і іншую дзейнасць. Яно прымала ўдзел у рабоце па вызначэнню ўрону, нанесенага фашысцкай агрэсіяй народнай гаспадарцы і насельніцтву рэспублікі, і рыхтавала меркаванні аб яг[illegible]мпенсацыі, хаця б частковай. А ўр[illegible] быў вельмі вялікі.

Захопнікі пакінулі пасля сябе разрабаваную, спустошаную, выпаленую зямлю. Яны разбурылі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9 200 сёлаў і вёсак. Не змаглі вярну[illegible] да жыцця 186 вёсак. Сярод іх—Х[illegible]ь, вядомая цяпер усяму свету як адно са сведчанняў варварства і жорсткасці фашызму. У агні вайны загінулі 2 мільёны 225 тысяч чалавек, ці кожны чацвёрты жыхар Беларусі. Фашысты вывезлі на катаржныя работы ў Германію каля 380 тысяч мірных грамадзян. Большасць з іх таксама загінулі.

У ліку задач, якія выконваліся знешнепалітычным ведамствам рэспублікі ў той перыяд, была і работа па міжнародных аспектах выяўлення ваенных злачынцаў для аддачы пад суд за здзейсненыя злачынствы.

НКЗС БССР удзельнічаў у ажыццяўленні мерапрыемстваў, звязаных са змяненнем савецка-польскай граніцы. У гэтых мэтах 9 верасня 1944 года было заключана «Пагадненне паміж Урадам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Польскім Камітэтам Нацыянальнага Вызвалення аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і польскіх грамадзян з тэрыторыі БССР», а 25 лістапада 1945 года быў падпісаны Дадатковы пратакол да гэтага пагаднення.

Адначасова вялася падрыхтоўчая работа да ўдзелу Беларускай ССР у стварэнні і дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Ідэя стварэння ААН, як вядома, зарадзілася яшчэ ў гады другой сусветнай вайны і атрымала сваё развіццё і ажыццяўленне ў двухбаковых пагадненнях СССР з іншымі краінамі. Першыя ж шматбаковыя дагаворанасці наконт гэтага былі дасягнуты па прапанове Савецкага Саюза на Маскоўскай канферэнцыі міністраў замежных спраў СССР, ЗША і Англіі (19—30 кастрычніка 1943 года). Тут было прызнана неабходным правесці паміж трыма саюзнымі дзяржавамі папярэдні абмен думкамі па пытаннях, звязаных з заснаваннем міжнароднай арганізацыі для падтрымання міжнароднага міру і бяспекі. Пытанні стварэння ААН абмяркоўваліся таксама на Тэгеранскай і Крымскай канферэнцыях. Прадстаўнікі СССР, ЗША і Вялікабрытаніі ў Думбартон-Оксе (21 жніўня—28 верасня 1944 года) распрацавалі праект Статута ААН.

На гэтай канферэнцыі Савецкі Саюз унёс прапанову аб уключэнні ў састаў першапачатковых членаў ААН усіх савецкіх сацыялістычных рэспублік, якія ўтвараюць СССР. З-за пярэчанняў ЗША і Англіі гэтая прапанова не была рэалізавана поўнасцю. Удалося дамовіцца аб запрашэнні да першапачатковага членства ў ААН толькі Украіны і Беларусі. На Крымскай канферэнцыі, дзе падрабязна разглядалася гэтае пытанне, нават У. Чэрчыль адзначаў, што яму «здаецца не зусім лагічным запрашаць на канферэнцыю ў Сан-Францыска ўсе малыя краіны, якія амаль нічога не зрабілі для перамогі і толькі цяпер, у апошні момант, аб'явілі вайну, і ў той жа час адкладваць запрашэнне двух саюзных рэспублік» — Украіны і Беларусі. А Э. Стэцініус, які быў у той час дзяржаўным сакратаром ЗША, заявіў у красавіку 1945 года, што ўрад ЗША падтрымае прапанову Савецкага ўрада аб запрашэнні Беларускай С[illegible] і Украінскай ССР быць першапа[illegible]вымі членамі міжнароднай арганізацыі.

У паведамленні ТАСС (2 красавіка 1945 года) «Аб удзеле Украінскай ССР і Беларускай ССР у Міжнароднай арганізацыі для падтрымання міру і бяспекі» адзначалася, што «У[illegible]а і Беларусь па колькасці насель[illegible]ва і па іх палітычнаму значэнню, а таксама па ўнесенаму імі ўкладу ў агульную справу разгрому гітлераўскай Германіі, перасягаюць некаторыя дзяржавы, якія па агульнай згодзе былі аднесены да ліку заснавальнікаў Міжнароднай арганізацыі». Прапанова СССР на Крымскай канферэнцыі аб запрашэнні гэтых двух савецкіх рэспублік да ўдзелу ва ўказанай арганізацыі ў якасці першапачатковых членаў-заснавальнікаў сустрэла станоўчыя адносіны з боку прадстаўнікоў урадаў Злучаных Штатаў Амерыкі і Вялікабрытаніі.

У самым пачатку канферэнцыі ў Сан-Францыска, дзе распрацоўваўся Статут ААН, было аднагалосна прынята канчатковае рашэнне — запрасіць прадстаўнікоў Украінскай ССР і Беларускай ССР заняць свае месцы на канферэнцыі. Дэлегацыя Беларускай ССР прыняла актыўны ўдзел у распрацоўцы Статута ААН. Яе кіраўнік К. Кісялёў (міністр замежных спраў у 1944—1966 гадах) быў дакладчыкам Першага камітэта Другой камісіі, які займаўся пытаннямі складу і працэдуры работы Генеральнай Асамблеі ААН. Наша рэспубліка была ў ліку дзяржаў, якія падпісалі Статут ААН 26 чэрвеня 1945 года, гэта значыць у дзень завяршэння работы канферэнцыі ў Сан-Францыска.

30 чэрвеня 1945 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ратыфікаваў Статут ААН. 24 кастрычніка 1945 года на захаванне ўраду ЗША былі здадзены ратыфікацыйныя граматы СССР, УССР і БССР. Пры гэтым была дасягнута такая колькасць ратыфікацый, уключаючы ратыфікацыйныя граматы ўсіх пастаянных членаў Савета Бяспекі, якая неабходна для ўступлення ў сілу Статута ААН. Гэты дзень і стаў днём стварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Сёння прадстаўнікі БССР прымаюць удзел у рабоце больш 60 міжнародных міжурадавых арганізацый сістэмы ААН і іх органаў, у тым ліку выбарных. У 1974—1975 гадах БССР была членам Савета Бяспекі ААН. Яна тройчы выбіралася ў састаў Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН. Гэта, бясспрэчна, з'яўляецца адным з праяўленняў міжнароднага прызнання ўкладу нашай рэспублікі ў барацьбу за мір і супрацоўніцтва народаў.

Найбольш буйнымі міжнароднымі арганізацыямі і органамі, у рабоце якіх удзельнічае рэспубліка цяпер, з'яўляюцца: Арганізацыя Аб'яднаных Нацый і яе Генеральная Асамблея з сямю галоўнымі камітэтамі: Камісія па раззбраенню і Падрыхтоўчы камітэт для Трэцяй спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, прысвечанай раззбраенню; Канферэнцыя ААН па гандлю і развіццю (ЮНКТАД) і яе Савет; Арганізацыя ААН па прамысловаму развіццю (ЮНІДО); Эканамічны і Сацыяльны Савет ААН з яго камітэтамі і органамі, якія займаюцца пытаннямі правоў чалавека, становішча жанчын, дзейнасці транснацыянальных карпарацый, развіцця населеных пунктаў, удасканалення дзейнасці эканамічных і сацыяльных органаў ААН, а таксама Эканамічная камісія ААН для Еўропы (ЭКЕ) з яе асноўнымі і дапаможнымі органамі; Праграма ААН па навакольнаму асяроддзю (ЮНЕП); Праграма развіцця ААН (ПРААН); Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ); Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКО) і шэраг яе органаў; Міжнародная арганізацыя працы (МАП), Адміністрацыйны савет МБТ і іншыя органы; Сусветны паштовы саюз (СПС); Міжнародны саюз электрасувязі (МСЭ); Сусветная метэаралагічная арганізацыя (СМА); Сусветная арганізацыя інтэлектуальнай уласнасці (САІУ); Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ); Міжнароднае бюро выставак (МБВ) і шэраг іншых. Па лініі гэтых арганізацый і іх органаў дэлегацыі БССР актыўна ўдзельнічаюць у шматлікіх сесіях, канферэнцыях, нарадах, сімпозіумах, семінарах і іншых міжнародных мерапрыемствах.

Неаднаразова прадстаўнікі БССР выбіраліся на адказныя пасады, напрыклад, намесніка старшыні сесій Генеральнай Асамблеі ААН, старшынь, намеснікаў старшыні, дакладчыкаў розных органаў сістэмы ААН і яе спецыялізаваных устаноў.

Па лініі сакратарыятаў міжнародных арганізацый на пачатак 1988 года працавала 35 беларускіх спецыялістаў.

Пастаянныя прадстаўніцтвы БССР пры ААН у Нью-Йорку, пры ЮНЕСКО ў Парыжы, пры аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе, пры міжнародных арганізацыях, размешчаных у Вене, выконваюць ускладзеныя на іх задачы па ўдзелу рэспублікі ў органах сістэмы ААН, падтрымліваюць непасрэдныя кантакты з сакратарыятамі міжнародных арганізацый.

Беларуская ССР з'яўляецца ўдзельніцай 156 дзеючых міжнародных шматбаковых пагадненняў і актаў, распрацаваных з яе ўдзелам у сістэме органаў ААН, і шэрагу двухбаковых. Усе яны сумленна ёю выконваюцца.

Іншы чытач, азнаёміўшыся з напісаным вышэй, можа сказаць, што ў прынцыпе ён ведае аб гэтым, і спытаецца: якая канкрэтная, спецыфічная роля БССР, як у дзейнасці міжнародных арганізацый і ў іншай знешнепалітычнай рабоце праяўляюцца нацыянальны характар, гістарычныя і культурныя традыцыі беларускага народа? Пытанне і складанае, і простае.

Як гаворыць Канстытуцыя рэспублікі, «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ёсць сацыялістычная агульнанародная дзяржава, якая выказвае волю і інтарэсы рабочых, сялян і інтэлігенцыі, працоўных рэспублік усіх нацыянальнасцей».

Гэтым сказана ўсё. Праўда, у некаторай часткі прадстаўнікоў капіталістычных краін у свядомасці была палітычная блытаніна, якая вынікала з таго, што пры літаральным перакладзе імі назвы рэспублікі на замежныя мовы ў іх атрымлівалася «Белая Расія». Але даўно, нават калі ўспамінаць палітычную тэрміналогію перыяду грамадзянскай вайны, ні ў кога не засталося сумнення, што мы «чырвоныя». Нашай палітыцы, як і палітыцы іншых дзяржаў, якая зыходзіць з волі працоўнага народа, уласцівае імкненне да міру без вайны, без зброі, да ўзаемаразумення і супрацоўніцтва, да ўліку агульначалавечых каштоўнасцей і памкненняў, а не да варожасці, падазронасці і канфрантацыі.

На рэгулярна праводзімых нарадах дзяржаў сацыялістычнай садружнасці, у рабоце якіх прымаюць удзел і прадстаўнікі БССР, у брацкай сатворчасці ўзгадняюцца агульныя падыходы і пазіцыі, якія затым сумесна адстойваюцца. Пры гэтым улічваюцца ідэі і канкрэтныя прапановы нашай рэспублікі. Кансультацыі з дэлегацыямі некаторых недалучаных краін, краін, якія сталі на шлях развіцця, некаторых заходніх краін таксама неаднаразова завяршаюцца ўзгадненнем шляхоў урэгулявання тых ці іншых міжнародных праблем. І нярэдка цяжка потым нават вырашыць, хто сказаў першае слова, як склалася адзінства палітычнай волі і дагаворанасці.

**[Заканчэнне будзе].**







**Бадай, не знойдзеш сёння на нашай беларускай зямлі[illegible] тое што горада, але і вёскі, дзе б не было калектываў мастацкай самадзейн[illegible] — драматычных, танцавальных, харавых. Удзел у іх—і адпачынак, і занятак па душы, і мастацкае ўзбагачэнне асобы, і захаванне культуры народа. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў нас фальклорныя калектывы. Часцей за ўсё іх ядро складаюць людзі старэйшага ўзросту, як захавальнікі і носьбіты народных традыцый. Але каб не мялела рака самабытнага мастацтва, узбагачалася новымі здабыткамі, прыходзіць у калектывы і моладзь. І не толькі для аднавяскоўцаў спяваюць яны вясёлыя, мудрыя, мілагучныя народныя песні. Выязджаюць з канцэртамі да суседзяў, рады ім і ў Мінску. У пачатку года на сцэне Палаца культуры прафсаюзаў у Мінску (на здымках) выступалі артысты з Палесся—з Дабраслаўскага Дома культуры, а таксама з Чухаўскога і Сташанскага сельскіх Дамоў культуры. Яны пазнаёмілі мінчан з абрадавымі беларускімі песнямі.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

Сядзім за сталом пры святле лямпы-васьмілінейкі і вячэраем. Сыр, масла, малако, сопкая бульба... Руплівыя рукі гаспадыні. Разважлівы голас гаспадара. Як напамінае ўсё гэта матчыну хату!

Для дзеда Сашка сёння даволі тлумны дзень, але ён не здаецца, як найболей хоча расказаць пра родны кут, родныя мясціны. Аказваецца, у Полымі цяпер толькі тры чалавекі і жыве. Ён з бабкай Лідай ды Шурка. Тамара, жонка пакойнага браценіка Ляксея, некуды з'ехала — да сына ці дачок, — ён добра і не ведае. Праўда, зрэдку прыязджаюць у Полымя яе дзеці, сын Шуркі, іхнія дзеці — Галя і Міша. Але каб часта, то не скажаш. Бо дзе ім наездзіцца! Кожны пры справе. Галя сакратаром сельсавета ў Скідалі працуе, Міша — заатэхнікам у няблізкім саўгасе... Улетку не тое. Улетку весялей. І дзеці часцей бываюць, і ўнукі.

Дзед Сашко нібы скідае з сябе груз нялёгкіх разваг і кажа:

— А каб вы паўзіраліся, якія вакол Полымя краявіды, якая Котра! Яшчэ пасля вайны доўгі час па ёй лес у Нёман сплаўлялі... І рыбная, скажу вам, рака. Цяпер баброў развялося — плойма. Загацілі ўсё рэчышча. Мондры звер! Плаціны будуе, на рачулках, што ў Котру ўпадаюць, азярыны робіць. А выдра!..

—Ты лепш пра Святое балота раскажы,— перабівае жонка мужа.

— Яно цяпер не Святым, а Светлым завецца,— удакладняе дзед Сашко. — Ад Полымя вярсты тры, не болей, да яго. Балота дужа велькае. Вёрст дваццаць удоўжкі і за чатыры — ушыркі. Рос некалі там толькі карлаваты сасняк ды лазняк. Былі, праўда, астраўкі, дзе і харошы стаяў лес. Асабліва вока цешылі Курылаў Груд і Круглае. А наўкол — балота, балота. У вайну там партызаны базіраваліся. Я з імі павязаны быў, тое-сёе ведаю. Нават плашчадку ў тым месцы зрабілі, самалёты садзіліся, раненых бралі, зброю прывозілі...

Васьмілінейка пачала чадзіць.

— Газа канчаецца,— ціха прамовіла гаспадыня.

Гэта было як бы сігналам канчаць гамонку, ісці класціся.

Перайшлі ў пярэднюю. Бабка Ліда паслала мне на ложку, што пры самым акне, сказала: «Дабранач» і знікла за шафай, якая падзяляла пакой на дзве палавіны.

Не спалася. За акном, над трыма бярэзінамі, хадзіў малады месяц. Потым на шыбіны ён кінуў цень ад грушы-дзічкі, што стаяла ля самага плоту насупраць акна, стаяла голая, без адзінага лісціка. Гэты цень быў нібы жывы. Праз хвілін колькі ён перайшоў да мяне на падушку і стаіўся, усё адно як заснуў.

Чутно было, як, божкаючы, варочалася на сваім ложку бабка Ліда. Што яе трывожыла? Ці бяда, якая так недарэчна напаткала яе сына Аркадзя, пра якога яна ні слова не сказала праз увесь дзень, ці што іншае — хто ведае. Спрасоння стагнаў дзед Сашко. Ціха, як дзіця. Яму, відаць, балелі скручаныя «раматусам» рукі. А мо ягоная душа білася ў несціханай трывозе за дзень заўтрашні? Хто ведае.

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

У новы арыгінальны зборнік Анатоля Іверса «Я пайшоў бы ўслед за летам...» увайшлі вершы, напісаныя на працягу сарака апошніх гадоў. Прычым амаль усе вершы — гэта партызанская біяграфія паэта. У іх адчуваецца памяць вайны, драматычныя развагі пра ўсё перажытае:

**На ўсё жыццё хапіла мне вайны.**
**Яна не толькі вёскі спапяліла...**

У 1943 годзе, ва ўмовах фашысцкай акупацыі Беларусі, выйшла кніга «Слуцкі пояс» Анатоля Астрэйкі, якая стала першай паэтычнай партызанскай энцыклапедыяй. Другою такою унікальнай кнігай смела можна назваць новы зборнік вершаў Анатоля Іверса. «Гэта кніга жыцця партызана, выспяваная яго душой, пачынаючы з вогненных дзён акупацыі, да высокіх дзён яго сённяшняй сівізны ветэрана вайны і працы»,—сказаў нядаўна пры гутарцы пра зборнік А. Іверса Алег Лойка. Творы Анатоля Іверса мілагучныя, з добрай нечаканай рыфмай. Яны лёгка чытаюцца і ў той жа час простыя, як і сам аўтар. У іх адчуваецца моцны фальклорны струмень.

У сваіх вершах, напісаных у традыцыі класічнай беларускай паэзіі, Анатоль Іверс праўдзіва адлюстроўвае жыццё працоўнага чалавека, яго запаветныя думкі і надзеі. Паэта, як і кожнага простага чалавека, хвалююць праблемы экалогіі. Нават назвы вершаў крытычна і востра заяўляюць, што так непазнавальна змянілася прырода, што многія яе каштоўнасці так баззваротна знікаюць:

**Ручай у траве не булькае —**
**Загналі пад зямлю.**
**Бацян старой бабул[illegible]**
**Паплёўся на раллю...**
**Міжволі хмуру бровы я,**
**Душой каб не крывіць.**
**Ў музеі пні бабровыя:**
**Змяніўся краявід.**

Вершы ў збо[illegible] Анатоля Іверса настоены [illegible] жыццёвай праўдзе, яны нясуць у сабе гістарычныя факты і падзеі. Для прыкладу можна ўзяць верш «Пра савецкі скоры поезд», у якім ідзе гаворка пра скоры поезд «Беласток — Уладзівасток». І сапраўды, некалі курсіраваў поезд па такому маршруту. Цікава і тое, што ён праходзіў праз Слонім, нават меў тут прыпынак. Цяпер, на жаль, такога поезда няма.

Шмат у новым зборніку вершаў, прысвечаных роднай Слонімшчыне. Ды як пра яе не пісаць, калі ўся працоўная і творчая дзейнасць паэта непарыўна звязана з роднымі мясцінамі, з Чамярамі, са Слонімам. Тут у гады Вялікай Айчыннай вайны па заданню раённага камітэта Слонімскай антыфашысцкай арганізацыі Анатоль Іверс выконваў самыя складаныя аперацыі па знішчэнню фашыстаў. У сакавіку 1944 года яго выбралі сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта. Быў таксама намеснікам камандзіра атрада імя Дзяржынскага па разведцы. Прымаў самы актыўны ўдзел у выпуску органа Слонімскага падпольнага райкома партыі «Вольная праца», выдаваў лістоўкі і антыфашысцкую газету «Барацьба». Да сённяшніх дзён помніцца «пушчанскі шлях у агні», як «ляцяць пад адхоны захопніцкія паязды» і «як ворагаў у гарнізонах ахутвае полымя-дым». Помняцца і тыя тры сасны ля дарожкі, «дзе імгліцца маладосці далячынь»... Помніцца: вайна, цяжкі пасляваенны час. Але паэт выстаяў, бо верыў у светлую будучыню, верыў у свае сілы і стваральную працу савецкіх людзей. А побач была паэзія, гучалі далёкія і мілыя сэрцу песні на загонах, гучала матчына мова:

**Я хачу адчуць, як край цвіце**
**Пасля цяжкай, страшнае навалы.**
**Слухаць песні звонкія дзяцей,**
**Як і сорак год таму, бывала.**
**Беларусь, заўжды жыву табой,**
**Багацей і сілы загартоўвай...**

Усе вершы з новага зборніка Анатоля Іверса «Я пайшоў бы ўслед за летам...» прайшлі праз сэрца паэта, бо ўсё ў іх — ім перажытае.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# НЕ ПАГАСЛА ЗОРКА

Неяк цяжка сказаць адным словам, пра каго гэта кніга, што выйшла летась у выдавецтве «Навука і тэхніка» (Г. Пятроўская. «Не пагасла зорка»), настолькі разнастайны быў у сваіх інтарэсах Мікалай Янчук, так многа ён зрабіў для беларускай, рускай і ўкраінскай культуры.

Нарадзіўся ў 1859 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсцы Корніца Канстанцінаўскага павета Седлецкай губерні. І накавана было яму стаць, як і бацьку, земляробам. Аднак лёс распарадзіўся інакш: Мікалай Янчук атрымаў гімназічную адукацыю, скончыў Маскоўскі універсітэт, вытрымаў экзамен на ступень магістра, выкладаў, працаваў ахоўнікам Этнаграфічнага аддзялення Румянцаўскага музея, узначальваў Музычна-этнаграфічную камісію, створаную пры Этнаграфічным аддзеле Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце, быў адным з першых прафесараў Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

М. Янчук быў філолагам, этнографам, археолагам, антраполагам, фалькларыстам, спецыялістам па народнай музыцы, драматургам, перакладчыкам, паэтам, мастацтвазнаўцам. Надзвычай шырокі спектр інтарэсаў вучонага. Ён пакінуў глыбокія тэарэтычныя даследаванні па народнай культуры і быту, літаратуразнаўству, асабістыя запісы абрадаў і вуснапаэтычнай творчасці. Спіс толькі буйных работ уключае звыш 50 назваў. На сцэне ішлі яго п'есы, менш пашанцавала вершам.

М. Янчук быў адным з ініцыятараў выдання часопіса «Этнографическое обозрение» і доўгія гады яго рэдактарам. Цяжка пераацаніць ролю гэтага выдання ў развіцці айчыннай этнаграфіі.

Усё жыццё М. Янчук захоўваў цёплае пачуццё да радзімы. Не выпадкова значная частка работ вучонага прысвечана Беларусі, большая частка рэцэнзаваных ім артыкулаў мае адносіны да беларускіх губерняў. Ён вёў перапіску з даследчыкамі беларускага фальклору, падтрымліваў цесныя сувязі з беларускімі студэнтамі, якія вучыліся ў Маскве, быў сябрам маладых беларускіх літаратараў.

Першая буйная работа вучонага — апісанне вясельнага абраду, зробленае ў роднай вёсцы. Старанна перададзены тэксты песень, прыведзена характарыстыка мясцовай гаворкі — пачынаючы даследчык адным з першых звярнуў увагу на своеасаблівасць заходнепалескага дыялекту. Любоў да роднага краю прыкметная і ў літаратурных творах М. Янчука.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адкрыліся шырокія магчымасці для навуковай дзейнасці, хаця ў першыя паслярэвалюцыйныя гады краіна жыла цяжка. Але нядоўга давялося вучонаму працаваць. Вяртаючыся ў снежні 1921 года з Мінска ў Маскву пасля чытання курсу лекцый у Беларускім дзяржаўным універсітэце, М. Янчук захварэў на тыф...

І ў нашы дні работы М. Янчука — неацэнная крыніца па гісторыі духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа.

Кніга Г. Пятроўскай раскрывае вобраз выдатнага вучонага, знаёміць чытача з яго навуковай спадчынай, уводзіць у кола праблематыкі, якая займала даследчыка.

У кароткай анатацыі гаворыцца, што кніга адрасуецца філолагам, фалькларыстам, этнографам. Можна дадаць: і землякам вучонага.

**І. СІНЧУК.**

**УКЛАД І. ХОЗЕРАВА Ў ГІСТОРЫЮ АРХІТЭКТУРЫ РЭСПУБЛІКІ**

# ДАСЛЕДЧЫК ПОЛАЦКАГА ДОЙЛІДСТВА

Летась споўнілася 40 год, як памёр вядомы даследчык полацкага і смаленскага старадаўняга дойлідства — Іван Хозераў.

Нарадзіўся І. Хозераў 24 студзеня 1889 года ў Смаленску, у сям'і бондара. У 1907 годзе скончыў мясцовае рэальнае вучылішча, а потым — мастацкае вучылішча ў Пецярбургу.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі вучоны доўгі час жыў і працаваў у Смаленску, дзе вывучаў старажытную архітэктуру горада. Апрача смаленскага дойлідства, даследчык звярнуў пільную ўвагу на суседнія архітэктурныя школы і ў першую чаргу — на полацкую архітэктуру, бо менавіта полацкія дойліды заснавалі ў канцы XII стагоддзя Смаленскую архітэктурную школу.

Ён быў першым археолагам, які вывучаў полацкія храмы XI—XII стагоддзяў. І менавіта з яго пачалося вылучэнне полацкага дойлідства ў асобную архітэктурную плынь Кіеўскай Русі.

У 1926 годзе І. Хозераў разам з М. Шчакаціхіным даследаваў Полацкую Сафію і прыйшоў да вываду, што яе заходнія апсіды збудаваны значна пазней (не раней XV стагоддзя), чым сабор XI стагоддзя. Але пасля смерці даследчыка многія вучоныя вярнуліся да памылковай думкі аб першапачатковай пабудове заходніх апсід, і толькі апошнія раскопкі В. Булкіна канчаткова пацвердзілі слушнасць высноў Хозерава.

Тое ж самае адбылося ў 1926 годзе, калі вучоны абследаваў верхнія часткі Спасаўскай царквы XII стагоддзя ў Ефрасіннеўскім манастыры. Ён высветліў першапачатковую форму вокнаў бажніцы і значна дапоўніў рэканструкцыю першапачатковага выгляду храма, прапанаваную М. Бруновым у 1923 годзе.

У 1928 годзе даследчык правёў раскопкі Барысаглебскай і Пятніцкай цэркваў XII стагоддзя ў Бельчыцкім манастыры, зрабіў дакладныя абмеры рэштак гэтых храмаў, якія захаваліся, сфатаграфаваў і часткова замаляваў фрэскавы роспіс гэтых унікальных помнікаў.

Трэба адзначыць, што методыка даследаванняў згаданых храмаў была вельмі дакладнай і гэта дазволіла пазнейшым вучоным (М. Вароніну, Г. Штыхаву, В. Церашчатавай і іншым) не раз выкарыстоўваць у сваіх працах ненадрукаваныя матэрыялы І. Хозерава.

Нават часткова апублікаваныя даследчыкам вынікі вывучэння полацкіх помнікаў XI—XII стагоддзяў дазволілі вучоным гаварыць пазней аб існаванні самастойнай полацкай архітэктурнай школы і яе моцным уплыве на смаленскае дойлідства. Гэтаму спрыялі і тыя публікацыі Хозерава, дзе ідзе гаворка аб будаўнічых матэрыялах (асабліва плінфе) і знаках майстроў-цагельнікаў на старажытнай цэгле.

Усяго І. Хозеравым было апублікавана 17 навуковых прац і больш за сто артыкулаў у розных часопісах і газетах, прысвечаных архітэктуры і мастацтву Беларусі, Смаленшчыны і часткова Украіны.

Адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны (у 1946 годзе) І. Хозераў пераехаў на жыхарства ў Мінск, дзе ўзнавіў працу па вывучэнню старадаўняй беларускай архітэктуры. Ён прадоўжыў вывучэнне Полацкай Сафіі і пачаў даследаваць Каложскую царкву ў Гродне. Аднак напружаная праца ў часе экспедыцый падарвала здароўе, і ў сакавіку 1947 года Хозерава не стала.

Ненадрукаваныя рукапісы, малюнкі і фотаздымкі даследчыка захоўваюцца ў архівах Масквы, Ленінграда, Смаленска і Мінска. Яны маюць вялікае значэнне для вывучэння гісторыі архітэктуры і матэрыяльнай культуры Беларусі.

**Алег ТРУСАЎ.**



**НА ЗДЫМКУ:** руіны Стара-Пятніцкай царквы ў Полацку (фрагмент фрэскі).

## РАЗВІТАННЕ

*Словы С. ГРАХОЎСКАГА* *Музыка В. ІВАНОВА*




**Няўжо канчаецца дарога!**
**Плыве над ёй зялёны дым**
**І развітанне ля парога**
**З сялом і жытам маладым.**

**Калі ізноў сюды вярнуся**
**Ці завітаю зноў калі,**
**У пояс жыту пакланюся**
**І любай дзедаўскай зямлі!**

**Прыпомню даўнія аблогі,**
**Лужок з нахіленым стажком,**
**І растанцовыя дарогі,**
**І крыж з маленькім фартушком.**

**Пайду сцяжынкаю тугою**
**Па затуманенай траве.**
**І ўсё навекі дарагое**
**Ізноў у сэрцы ажыве.**

**Калі ізноў сюды вярнуся**
**Ці завітаю зноў калі,**
**У пояс жыту пакланюся**
**І любай дзедаўскай зямлі!**

## ПРАДСТАЎЛЯЕМ ЧЭМПІЁНА

**Леанід ТАРАНЕНКА, цяжкаатлет. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў гарадзе Маларыце, што на Брэстчыне. Заслужаны майстар спорту. Чэмпіён Алімпійскіх гульняў у Маскве, VII і VIII летніх Спартакіяд народаў СССР, пераможца міжнароднага турніру «Дружба-84» і многіх іншых буйных спаборніцтваў. Устанавіў 39 сусветных рэкордаў. Зараз выступае ў звышцяжкай вагавай катэгорыі.**

...Канструктару сельскагаспадарчых машын, трэнеру па цяжкай атлетыцы на грамадскіх пачатках Івану Лагвіновічу падказалі: «Жыве ў горадзе Маларыта малады хлопец. Сілы незвычайнай. Жартуючы «хрысціцца двухпудовікам».

Іван Пятровіч едзе на Брэстчыну. Знаёміцца з Леанідам Тараненкам і ўгаворвае пераехаць у Мінск, каб сур'ёзна займацца цяжкай атлетыкай.

Пасля некалькіх гадоў напружаных трэніровак Леанід Тараненка стаў атрымліваць адну перамогу за адной. Галоўная з іх, вядома, — на Алімпіядзе ў Маскве. З зайздроснай лёгкасцю беларускі асілак устанаўліваў сусветныя рэкорды спачатку сярод юнакоў, а пасля і дарослых.

Але раптам на нейкі час Леанід Тараненка нібы знікае. У пачатку васьмідзесятых гадоў ён прайграе некалькі спаборніцтваў. Трэнеры каманды СССР не ўключаюць яго ў склад зборнай па адказныя чэмпіянаты. Што здарылася?

Выдатнага спартсмена пачалі праследаваць траўмы. Ён перанёс некалькі аперацый. Былі і суб'ектыўныя прычыны.

У васьмідзесятыя гады ў зборнай каманды штангістаў СССР пачаўся крызіс. Былі дапушчаны пралікі ў падрыхтоўцы высокакласных спартсменаў. Мы сталі ўступаць цяжкаатлетам Балгарыі. Каб выправіць становішча, трэнеры пайшлі па шляху амаладжэння каманды і не заўжды апраўдана. Прыклад таму — Тараненка, якога таксама заўчасна запісалі ў ветэраны.

— Я верыў у свайго вучня, — гаворыць Іван Лагвіновіч. — Ведаў, што рана запісваць у ветэраны, гутарыў па гэтую тэму з новымі трэнерамі зборнай краіны. Даказваў, што Леанід яшчэ пакажа сябе. Але вярнуць былую славу можна было не словамі, а толькі справай. І мы дамагліся свайго. Трэніраваўся Тараненка вельмі старанна. Штодзень падымаў па 20-30 тон жалеза. І зноў стаў атрымліваць перамогі над мацнейшымі штангістамі свету: сваім земляком А. Курловічам, кіеўлянінам А. Пісарэнкам, балгарынам А. Красцевым...

І не толькі перамагаць, але і паказваць вынікі спартсмена суперкласа. У канцы красавіка ён стаў чэмпіёнам Еўропы ў Вялікабрытаніі з вынікам у двухбор'і 462,5 (207,5+255) кілаграма. Яшчэ большую суму марыць набраць спартсмен на сёлетняй Алімпіядзе ў Сеуле. Якую? Ён нам не назваў. Але давайце пачакаем Алімпійскіх гульняў. Дакладна вядома адно: галоўную спрэчку за першае месца павядуць там самыя моцныя людзі на зямлі — беларускія спартсмены Л. Тараненка і А. Курловіч. Пажадаем жа ім поспеху.



## МІЛЬЁННЫ НАВЕДВАЛЬНІК

Не чакаў старшыня калгаса-мільянера «Зара Алтая» Алтайскага края, Герой Сацыялістычнай Працы Артур Эрнст, выязджаючы на экскурсію ў Брэст, што на далёкай беларускай зямлі апынецца ў цэнтры знамянальнай падзеі. Патомны хлебароб стаў мільённым наведвальнікам археалагічнага музея «Бярэсце».

Усяго за шэсць год існавання музея вучонымі-археолагамі Акадэміі навук БССР і мясцовымі краязнаўцамі сабрана багатая экспазіцыя, якая расказвае аб зараджэнні першых рамёстваў, развіцці гандлю, навукі і культуры на тэрыторыі Брэстчыны. Ёсць у ёй і па-сапраўднаму унікальныя экспанаты. Гэта адзінае ў Еўропе дубовае арала XIII стагоддзя і адзін з першых славянскіх «буквароў» — самшытавы грабеньчык з выразанай на ім азбукай кірыліцы.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**
**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 792